# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№6 (277)
чэрвень 2025

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**








# 90-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА АДЗНАЧЫЛІ Ў ВІЛЬНІ

Вечарына, прысвечаная 90-годдзю Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, прайшла ў Вільні.

Арганізавалі яе Homan-band разам з Сяржуком Доўгушавым. Праўда сам музыка, які павінен быць хэдлайнерам гэтай імпрэзы, захварэў і не прыехаў у Вільню. Але на сцэне выступілі гурты "Гудаграй", Homan-band, "Беларускі Цуд", дзіцячы хор "Валошкі", цымбалістка і фальклярыстка Паліна Курановіч, дудар і музыка Вячка Красулін, які быў вядоўцам імпрэзы.

Паводле Вячкі Красуліна, Рыгор Барадулін не толькі паказваў свой інтэлект і эрудзіраванасць, але і меў добрае пачуццё гумару, што яму вельмі імпануе:

– Я падрыхтаваў праграму з чытаннем вершаў са зборніка «Ксты». Таксама распавёў цікавыя моманты з біяграфіі дзядзькі Рыгора пра тое, як ён не толькі пісаў духоўную паэзію, ці філасофскую, але ў чалавека было выдатнае пачуццё гумару. Таксама ён вельмі любіў «папрыкалвацца» са сваіх калег па цэху.

Падчас паэтычнай часткі вершы Рыгора Барадуліна чыталі Вячка Красулін, Ілля Міронаў і Валерыя Чарнаморцава.

Кажа грамадская дзяячка Валерыя Чарнаморцава, якая аднойчы была нават у хаце вядомага беларускага паэта:

– Адзін раз я была ў хаце паэта па грамадскай справе. Ён дарэчы недалёка ад мяне жыў. Ён мне тады падараваў кнігу. У мяне ёсць некалькі кніг з ягонымі аўтографамі. Але гэтая кніга мне найбольш дарагая. І акурат там гэтыя кароткія вершы, гэтыя афарызмы, якімі ён і гаварыў апошнімі гадамі, таму што яму было вельмі складана доўга казаць. Ён проста выпальваў такія афарызмы.

Валерыя Чарнаморцава прачытала некалькі вершаў Рыгора Барадуліна, у тым ліку прысвечаныя Васілю Быкаву і адзін з самых вядомых, які пакладзены на музыку, "Маленне за Беларусь".

racyja.com

in memoriam

# ПАМЁР РАДЗІМ ГАРЭЦКІ

Сумнае паведамленне з Мінску – 22 чэрвеня, ва ўзросце 96 гадоў, пайшоў у лепшы свет Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, буйны навуковец, пісьменнік і публіцыст, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“ (1993–2001).




Акадэмік Радзім Гарэцкі найперш быў вядомы сусветнай навуковай супольнасці – у якасці яскравага адмыслоўца ў галіне геолага-мінералагічных навук, які сусветныя славу і аўтарытэт здабыў як аўтар прарыўных манаграфій і шэрагу важных доследаў.

Тыя, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і беларускай літаратурай, ведалі яго як рэканструктара біяграфій беларускіх дзеячаў з дынастыі Гарэцкіх, а таксама аўтара кніг і артыкулаў, прысвечаных пытанням гісторыі нацыянальнага адраджэння, як пачатку ХХ стагоддзя, гэтак і пачатку ХХІ-га.

Мы ж яго найлепей ведалі як грамадскага дзеяча, як абранага на Першым з’ездзе беларусаў свету прэзідэнта ЗБС „Бацькаўшчына“, які цягам васьмі гадоў кіраваў Згуртаваннем, браў удзел у падрыхтоўцы ўсіх сямі З’ездаў, быў адным з самых актыўных сябраў „Бацькаўшчыны“ і наогул адным з самых адданых беларускай справе людзей з тых, каго мы ведаем.

Мы ганарымся тым, што лёс далучыў нас да асобы такога маштабу.

Будзе вельмі не хапаць той яго рэдкай чалавечай здольнасці падзараджаць сваім імпэтам у цяжкія часы, і асабліва – яго мудрых парадаў…

Выказваем шчырыя спачуванні

навіны

# Яраслаў Іванюк: У незалежнай Беларусі перадам Kamunikat Нацыянальнай бібліятэцы

У Беластоку ў “Chill Time Cafe” хабу “Новая зямля” прайшла заключная сустрэча 4-га сезона курсаў “Мова нанова”. Спецыяльным госцем сустрэчы быў Яраслаў Іванюк – стваральнік інтэрнэт-бібліятэкі kamunikat.org і пазней – аднайменнага фонду. На яго думку, накоплены рэсурс бібліятэкі павінен стаць набыткам усяго беларускага народу.

– Я надалей лічу, што калі Беларусь стане нармальнай, дэмакратычнай, незалежнай, цывілізаванай дзяржавай, то я проста перадам “Камунікат” у беларускую Нацыянальную бібліятэку. Бо для такой працы патрэбны сапраўды вялікія кадры. У нас ёсць жменька некалькіх асобаў. Але я ганаруся тым, што некалькімі асобамі мы здолелі зрабіць гэта. У асноўным, асабліва з самага пачатку, гэтым займаліся беларусы Падляшша, што таксама лічу вельмі важным.

Адзін з заснавальнікаў і шматгадовых арганізатараў курсаў “Мова на нова” ў Беластоку Ігар Палынскі таксама мае непасрэднае дачыненне да дзейнасці інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org. І нават адзначае з ёй разам – дзень нараджэння.

Кажа Ігар Палынскі:

– Я не задумваўся пра гэта, пра дату. Ніколі не цікавіўся асабліва. І тут, калі сталі рыхтавацца да юбілею, з Яраславам размаўлялі, і ён кажа: дык 20 чэрвеня. Ого. Добра супала. Я з “Камунікатам” пачаў супрацоўнічаць яшчэ ў 2019 годзе. Трохі дапамагаў з сацыяльнымі сеткамі. Працягваю гэта рабіць. Займаюся таксама трохі аўдыёкнігамі. Мой голас на пачатку кожнай кнігі чуваць. Вось гэта: “Беларускія аўдыёкнігі ад інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”.







Найбуйнейшы рэсурс з беларускай літаратурай і перыёдыкай Kamunikat.org 20 чэрвеня адзначае 25 гадоў з дня заснавання. Гэта дзясяткі тысяч беларускіх кніг і перыядычных выданняў, якія вы можаце знайсці на аднайменнай інтэрнэт-старонцы.

Юрась Дзяшук, racyja.com

## БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭЦЫ KAMUNIKAT.ORG – 25 ГАДОЎ!

Роўна 25 гадоў таму, 20 чэрвеня 2000 года, задоўга да з’яўлення ў кожным доме хатняга інтэрнэту, супрацоўнік беларускай службы Польскага радыё задумаўся пра тое, каб захаваць лічбавыя версіі „папяровай“ часткі сваёй працы – нумары бюлетэню выбраных артыкулаў „Камунікат“.

Назіраючы, як „стос“ файлаў на няхітрым саматробным хостынгу пакрысе прырастае навуковымі і мастацкімі выданнямі Падляшша, ці мог спадар Яраслаў Іванюк прадбачыць, які слаўны працяг атрымае распачатая справа? Што наперадзе многія дзясяткі тысяч алічбаваных беларускамоўных публікацый і замежных выданняў пра Беларусь – маштаб, агорадь які пад сілу адно сур’ёзным інстытуцыям, накшталт нацыянальных бібліятэк? Што гадавая колькасць спампоўванняў з архіву будзе вымярацца мільёнамі? Што “Камунікат” будзе не толькі лічбавай бібліятэкай, а яшчэ і выдаўцом кніг, якія праз сваю ж уласную краму будуць разлятацца па ўсім свеце?

Пэўна, што і так. Бо немалы час, які прамінуў з таго памятнага дня, і ўсе падзеі, якія за гэты час адбыліся, робяць відавочнай сапраўдную мудрасць прынятага рашэння і нястомных руплівых намаганняў у аднойчы абраным кірунку.

Справядлівым эпітэтам у беларусаў да кожнай згадкі пра бібліятэку „Камунікат“ ёсць слова „незаменная“. Але сёння, калі ў Беларусі ўсталявалася татальная антыбеларуская цэнзура, зачыняюцца выдавецтвы, знішчаюцца цэлыя кнігазборы і прыбіраюцца са школы знаёмыя імёны, – ці знойдзецца іншае слова для ацэнкі дзейнасці фонду „Камунікат“ як незаменны. Незаменны сёння і незаменны для будучыні ўсёй беларускай культуры!

Ад імя Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“ шчыра віншуем Фонд „Камунікат“ з юбілеем! Зычым і надалей спрыяць зберажэнню, развіццю і пашырэнню беларускай культурнай спадчыны ва ўсім свеце. Хай справа, распачатая з унутранага імпэту і любові да беларускага слова, і надалей натхняе, яднае і служыць апорай усім, хто шукае праўду пра Беларусь, яе літаратуру, гісторыю і людзей.

Хай не слабне руплівасць, не замірае натхненне, а наперадзе будуць новыя праекты, новыя чытачы і новыя перамогі.

**З глыбокай пашанай і падзякай – Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”**

навіны

# Сяргей Ціханоўскі: НАЗАВУ ЗДРАДНІКАМ КОЖНАГА, ХТО ЛУКАШЫЗМУ НЕ СУПРАЦІЎЛЯЕЦЦА

22 чэрвеня ў Вільні прайшла прэс-канфэрэнцыя вызваленых напярэдадні беларускіх палітвязняў. У ёй узялі ўдзел лідарка дэмакратычных сілаў Святлана Ціханоўская і яе муж, колішні прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду Сяргей Ціханоўскі.



На пачатку прэс-канфэрэнцыі Святлана Ціханоўская падзякавала прэзідэнту ЗША Дональду Трампу і ягонай адміністрацыі, тым прадстаўнікам ЗША, якія прыязджалі ў Менск 21 чэрвеня, а таксама прадстаўнікам іншых краінаў, які дапамагаюць беларусам. Спачатку яна прамаўляла па-беларуску, а потым паўтарыла тое самае па-ангельску.

Ціханоўская падкрэсліла, што варта дамагацца вызвалення іншых палітвязняў, у тым ліку Ігара Лосіка і ўсіх 38 журналістаў, якія цяпер за кратамі. Яна падзякавала за дапамогу прэзідэнту "Радыё Свабодная Еўропа/ Радыё Свабода" Стыву Капусу.

У канцы прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне журналісткі, Ціханоўская сказала, што будзе працягваць сваю дзейнасць, пакуль не будуць вызваленыя ўсе палітвязні і пакуль у Беларусі не адбудуцца вольныя выбары.

Сяргей Ціханоўскі сказаў, што прэзідэнт ЗША Дональд Трамп мае цяпер агромністы ўплыў і можа адным словам дамагчыся вызвалення ўсіх палітвязняў у Беларусі. Ён заклікаў Трампа сказаць гэтае слова.

"Яны там называюць нас здраднікамі. А я назаву здраднікам кожнага, хто лукашызму не супраціўляецца", – сказаў Ціханоўскі. Ён закончыў сваю прамову словамі "Жыве Беларусь!"

Ціханоўскі сказаў, што калі б не дзеянні кіраўніка Расеі Уладзіміра Пуціна, у Беларусі яшчэ ў 2020 годзе адбыліся б змены. Адказваючы на пытанне літоўскага журналіста, Ціханоўскі сказаў, што ніколі не быў прарасейскім палітыкам, а заўсёды быў прабеларускім. "Наш агульны вораг – пуцінская ўлада. Пакуль яна не рухне, ніякай перамогі ў Беларусі не будзе". Ціханоўскі сказаў, што наведваў анэксаваны Расеяй Крым на адзін дзень, каб наведаць праваслаўны храм, у той час, калі яшчэ не цікавіўся палітыкай. "Крым – гэта тэрыторыя Украіны", – сказаў ён і падкрэсліў, што цалкам падтрымлівае Украіну і лічыць прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага героем.

Сяргей Ціханоўскі сказаў, што не збіраецца ўмешвацца ў працу Офісу Святланы Ціханоўскай. Паводле яго, супрацоўнікі КДБ у зняволенні спрабавалі даваць яму дэзынфармацыю, а ён рабіў выгляд, што верыць. Ціханоўскі сказаў, што ягоная жонка з'яўляецца лідарам апазыцыі, і ён не збіраецца прэтэндаваць на такую ролю, бо правёў 5 гадоў у ізаляцыі.

Адказваючы на пытанне пра сустрэчу з дзецьмі пасля вызвалення, Ціханоўскі расплакаўся. Святлана Ціханоўская сказала, што дачка не пазнала бацьку пасля турмы.

Прэзідэнт "Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода" Стыў Капус у кароткай прамове пасля падзякаваў прэзідэнту ЗША і паліыткам іншых краін сказаў, што надалей будзе дамагацца вызвалення Ігара Лосіка ды іншых журналістаў, якія знаходзяцца за кратамі ў Беларусі за сваю працу.

Сяргей Ціханоўскі расказаў пра сустрэчу з Лукашэнкам у СІЗА КДБ у 2020 годзе. Паводле яго, ён некалькі разоў пытаўся ў Лукашэнкі, навошта яму, Ціханоўскаму, падкінулі грошы падчасператрусу. Лукашэнка, кажа Ціханоўскі, двойчы адмаўляў, што такое было, але ўрэшце сказаў: "А што ты думаў? Палітыка – брудная справа".

Ціханоўскі расказаў, што адмовіўся паціснуць Лукашэнку руку, спасылаўшыся на тагачасную эпідэмію каранавірусу. Лукашэнка на гэта нібыта сказаў: "Дык я ж ужо перахварэў".

Ціханоўскі таксама расказаў пра сёлетнюю сустрэчу за кратамі з Раманам Пратасевічам, які прыехаў да яго. Перад гэтым Ціханоўскага завялі ў лазню, забралі ў яго турэмную робу з жоўтай біркай, якой пры рэжыме Лукашэнкі пазначаюць "экстрэмістаў". Пратасевіч заклікаў падпісаць дакументы на памілаванне, затым прасіў сумесны здымак. Ціханоўскі адмовіўся гэта рабіць.

Паводле Ціханоўскага, Пратасевіч ездзіў з падобнымі прапановамі і да Марыі Калеснікавай, але тая накінулася на яго і пабіла. Сам жа Ціханоўскі назваў Пратасевіча "палітычнай шпаной", цытуючы Салжаніцына. Пры гэтым ён заклікаў не цкаваць Пратасевіча, адзначыўшы, што ўлады запалохалі Рамана.

Выкладчыца Наталля Дуліна расказала, як яе кідалі ў штрафны ізалятар. У снежні ў яе забралі легінсы, і яна мусіла быць у камеры ў адной футболцы без рукавоў і без шкарпэтак.

"Парушаюцца базавыя патрэбы чалавека. Холад, парушэнне сну. Кармілі там добра, тут няма чаго сказаць. Фізічны дыскамфорт, вядома, уплывае на маральны стан. Былі камеры больш цёплыя, былі менш цёплыя. Мы ж дзелімся паміж сабою інфармацыяй. Калі я назвала свой нумар камеры, мне сказалі, што гэтая менш цёплая".

Ігар Карней дадаў, што фізічнага гвалту не было, але псіхалагічны ціск адчуваўся. Месяц-паўгода ў адзіночнай камеры вельмі моцна могуць паўплываць на чалавека. Таксама ўплывае забарона купляць у турэмнай краме, розныя іншыя абмежаванні.

21 чэрвеня спецыяльны прадстаўнік прэзідэнта ЗША ў пытаннях Украіны Кіт Келаг сустрэўся ў Менску з Аляксандрам Лукашэнкам. Праз некалькі гадзін пасля сустрэчы стала вядома пра вызваленне 14 палітвязняў, у тым ліку Сяргея Ціханоўскага.

svaboda.org

# ЯШЧЭ ТРЫ АПОВЕСЦІ БЫКАВА ПЕРАВЫДАЛІ ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

Выдавецтва "Папуры" падрыхтавала і выдала чарговы том з творамі Васіля Быкава. Гэтым разам у кнігу ўвайшлі аповесці "Трэцяя ракета", "Праклятая вышыня" і "Дажыць да світання".

Гэтыя аповесці прызнанага майстра ваеннай прозы Васіля Быкава апісваюць асобныя эпізоды з франтавога жыцця савецкіх байцоў. На першы погляд, у іх няма нічога выключнага – такія падзеі дзе-нідзе адбываліся штодня і звесткі пра іх нават траплялі ў вайсковыя зводкі. Але кожны з герояў узрастае да асабістага подзвігу, які і стане маленькай часцінкай перамогі.

Раней пад адной вокладкай выходзілі аповесці Васіля Быкава "Круглянскі мост", "Абеліск" і "Воўчая зграя", што апавядаюць пра жыццё людзей пад акупацыяй.

Шукайце на wildberries і oz.by, а таксама ў кнігарні "Параграф 45" па адрасе вул. Леаніда Бяды, 45 (Менск).

bellit.info



навіны

# MALDZIS ВЯРТАЕ...

## ...КАРТУ ВКЛ ЯНА НЯПРЭЦКАГА

Ініцыятыва MALDZIS выкупіла карту Вялікага Княства Літоўскага, створаную вучоным езуітам беларускага паходжання Янам Няпрэцкім і ўпершыню надрукаваную ў Нюрнбергу ў 1749 годзе. Гэта была першая аднолёная за амаль 150 гадоў і надзвычай дасканалая мапа ВКЛ з часоў Радзівілаўскай.

Набытае MALDZIS выданне выйшла ў свет у першай палове 1790-х – напрыканцы існавання Вялікага Княства Літоўскага.

Карта была набытая на сродкі беларускага ахвярадаўцы Алекса Шуба.

Кажа Алекс Шуб:

"Быць прадпрымальнікам – гэта не толькі пра бізнес, але і пра адказнасць за грамадства, у якім мы жывём. Аказалася, што вяртаць культурныя артэфакты прасцей, чым я думаў: для гэтага не трэба быць мільянерам, а эмоцыі ад укладу мацнейшыя, чым ад чарговай здзелкі. Мне падаецца, што захаванне спадчыны – гэта не пра калекцыянаванне, а аб праве самастойна расказваць сваю гісторыю".

Аўтарам карты з'яўляецца малады навуковец-езуіт Ян Няпрэцкі, які нарадзіўся на Случчыне ў студзені 1718-га года і пражыў усяго 32 гады. Найбольш імаверна, што ён скончыў працу над мапай у 1747–1748 гадах падчас знаходжання ў Гарадзенскім езуіцкім калегіуме.

Плануецца, што ў будучыні карта будзе перададзеная ў Слуцк (Слуцкі краязнаўчы музей) у якасці грамадскага падарунка. Да вяртання на радзіму мапа будзе выстаўляцца падчас адмысловых мерапрыемстваў за межамі Беларусі.

Кажа Павел Мацукевіч, кіраўнік ініцыятывы MALDZIS:

"Карту Яна Няпрэцкага варта разглядаць як этапную з'яву ў айчыннай картаграфіі і адначасова як важную крыніцу гістарычнай інфармацыі пра ВКЛ і адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел на беларускіх землях у XVIII стагоддзі. Гэта таксама яскравы прыклад іміджавай працы, бо карта прасоўвала вобраз урбанізаванай краіны".

Карта Няпрэцкага была ўпершыню выдадзеная ў 1749 годзе пад рэдакцыяй знакамітага нямецкага картографа, матэматыка і астранома Тобіяса Маера ў выдавецтве "Спадкаемцы Гомана" ў Нюрнбергу. На той час гэтае выдавецтва лічылася лідарам у галіне выдання мапаў.

Кажа Рыгор Астапеня, апякун ініцыятывы MALDZIS:

"І сама карта, і месца яе выдання сведчаць, што ўзровень адукацыі ў ВКЛ дазваляў ствараць прадукты, якія адпавядалі сусветным стандартам. Яе стварэнне патрабавала глыбокіх ведаў у галіне картаграфіі, матэматыкі, астраноміі і геадэзіі ды паспрыяла далейшаму развіццю гэтых навук і агулам інтэлектуальнага патэнцыялу краіны".

### Гісторыя карты Няпрэцкага

Вядома пра 6 версій-станаў карты Няпрэцкага, выдадзеных у Нюрнбергу ад 1749 да 1812 года, калі ВКЛ ужо спыніла нават сваё існаванне, знікшы ў Расейскай імперыі. Набыты ініцыятывай Maldzis асобнік адносіцца да чацвёртага стану першага выдання і быў надрукаваны пасля 1767-га года.

Сярэдні маштаб карты Яна Няпрэцкага – 1:1 424 600.

Пры падрыхтоўцы сваёй мапы Няпрэцкі абапіраўся на Радзівілаўскую карту ў выданні Яна Янсона ван Васбергена, якая выйшла ў лонданскім выдавецтве ў другой палове XVII стагоддзя (1680-1683) і з'яўляецца зменшанай і перапрацаванай копіяй Радзівілаўскай карты Вілема Яна Блаў 1613 года.

Навуковец-езуіт беларускага паходжання фактычна нанова склаў і пераправерыў размяшчэнне гарадоў і рэк. У выніку ягоная карта значна ўдакладняе канфігурацыю ваяводстваў і паветаў ды істотна дапоўненая новымі населенымі пунктамі – у межах ВКЛ іх там 680 (+120 у параўнанні з Радзівілаўскай мапай).




## ...СТАРАДРУК СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

Ініцыятыва MALDZIS выкупіла першае выданне "Жазла кіравання" ("Жезлъ правленія") Сімяона Полацкага. Гэта адзін з найбольш каштоўных кніжных помнікаў, створаных беларусамі.

"Жазло кіравання" было надрукаванае ў Маскве ў 1667 годзе на царкоўнаславянскай мове і належыць да надзвычай рэдкіх артэфактаў. Гэта першая выдадзеная кніга беларускага манаха-асветніка Сімяона Полацкага.

Кажа Павел Мацукевіч:

"Асветнік Сімяон Полацкі – постаць агульнаеўрапейскага маштабу і адна з самых яркіх асоб у гісторыі Усходняй Еўропы ў XVII ст. Шмат у чым ягонае жыццё і творчасць (у тым ліку кніга "Жазло кіравання") адлюстроўваюць культурную спецыфіку Беларусі як еўрапейскай краіны з асаблівай ідэнтычнасцю і гістарычнай спадчынай, якая склалася ў выніку сінтэзу традыцый і ўплываў Захаду і Усходу".

Кніга была набытая ў Польшчы на сродкі беларускіх ахвярадаўцаў і ў будучыні будзе перададзеная ў Музей-бібліятэку Сімяона Полацкага ў якасці грамадскага падарунка. Да вяртання ў Полацк кніга будзе выстаўляцца падчас адмысловых мерапрыемстваў за межамі Беларусі.

Кажа Рыгор Астапеня:

"Кніга "Жазло кіравання" з'яўляецца прыкладам багатых традыцыяў палемічнай літаратуры, якая была шырока распаўсюджаная акурат на беларускіх землях. Нашыя продкі менавіта з дапамогай мовы палемічных тэкстаў, а не зброі імкнуліся вырашаць міжканфесійныя канфлікты. У тагачаснай Расеі такой традыцыі не існавала. "Жазло кіравання" лічыцца першым значным палемічным творам у расейскай гісторыі".

У выніку шматпакутнага гістарычнага развіцця ў Беларусі засталося вельмі мала выданняў знакамітага палачаніна.

### Пра Сімяона Полацкага і гісторыю стварэння кнігі "Жазло кіравання"

Сапраўднае імя Сімяона Полацкага – Самуіл Пятроўскі-Сітняновіч. Нарадзіўся ў Полацку ў снежні 1629 года, паходзіў з купецкай сям'і. У архіўных спісах двароў палачан род Пятроўскіх пазначаны поруч са Скарынамі і Цяпінскімі.

Першапачатковую адукацыю юнак атрымаў у родным горадзе. Затым вучыўся ў Кіева-Магілянскай калегіі, якая лічылася найлепшай праваслаўнай навучальнай установай Усходняй Еўропы. Пасля быў навучэнцам Віленскай езуіцкай акадэміі.

Апрача роднай беларускай мовы Сімяон Полацкі дасканала валодаў лацінскай, царкоўнаславянскай і польскай мовамі. Пісаў на ўсіх чатырох мовах вершы, прамовы, пропаведзі, навуковыя працы. Карыстаўся пры гэтым як кірыліцай, гэтак і лацінкай. Ёсць некаторыя падставы для меркавання, што ён быў чальцом уніяцкага ордэна базыльянаў.

З'яўленне на свет "Жазла кіравання" адбылося падчас жыцця Сімяона ў Маскве, куды ён пераехаў з Полацка блізу 1664 года. У Маскоўскім царстве ён дажыў да канца сваіх дзён і здабыў славу як асветнік, царкоўны дзеяч заходняга кірунку, гуманіст, царскі настаўнік і дарадца, кніжнік, паэт і драматург.



"Жазло кіравання" было створанае на падставе даручэння двух патрыярхаў – Александрыйскага і Антыяхійскага, а таксама мітрапаліта Газы, якіх Сімяон Полацкі суправаджаў падчас царкоўнага сабору 1666–1667 гадоў у Маскве ў якасці сакратара і перакладчыка.

Імя аўтара не пазначанае на тытульным аркушы. Сімяон зашыфраваў яго ў першых літарах кожнага з радкоў акраверша, дзе чытаецца "Симеон Полоцкии трудился".

Змест кнігі прысвечаны аналізу памылак і разыходжанняў з вучэннем Царквы ў выступленнях старавераў. Свае довады асветнік грунтуе на фактах і лагічнасці разважанняў, што тады ўспрымалася як навацыя і "лацінства" ды ўпісвала "Жазло кіравання" ў плынь палемічнай літаратуры.

Полацкі пастаянна заклікаў да выкарыстання розуму, рацыянальных разважанняў і дакараў маскоўскіх царкоўных дзеячаў за неадукаванасць і адсутнасць дастатковых ведаў.

Кніга "Жазло кіравання" была перавыдадзеная ў 1753-ім годзе.

### Пра MALDZIS і магчымасці падтрымаць ініцыятыву

Ініцыятыва атрымала назву ў гонар Адама Мальдзіса, які шукаў і вяртаў з забыцця страчаныя беларускія каштоўнасці і імёны. MALDZIS працягвае гэтую справу і бачыць сваю місію ў аб'яднанні беларусаў вакол нацыянальнай ідэнтычнасці і ўмацаванні вобраза еўрапейскай нацыі.

Такія набыткі, як "Жазло кіравання", Трэці Статут ВКЛ, Радзівілаўская мапа ці мапа Няпрэцкага, магчымыя дзякуючы грамадскім ахвяраванням.

MALDZIS мае найбольшую патрэбу ў падтрымцы даследчай працы дзеля пошуку каштоўнасцяў, іх набыцця, ушанавання памяці слынных беларусаў і беларусак ды вяртання забытых імёнаў. Асабліва карыснымі для ініцыятывы з'яўляюцца штомесячныя ахвяраванні, нават малога памеру.

maldzis.world

# ГОД ПАД ЗНАКАМ БЕЛАРУСКАЙ ТВОРЧАСЦІ: ГАЛА-КАНЦЭРТ "АБ-БА" ПРАЙШОЎ У ТЭАТРЫ ЛЯЛЕК

16 чэрвеня ў Беластоцкім Тэатры Лялек адбыўся выніковы канцэрт Аб'яднання "АБ-БА", прысвечаны завяршэнню навучальнага года. Арганізацыя, якая актыўна падтрымлівае вывучэнне беларускай мовы ў Падляшшы, сабрала сваіх выхаванцаў, бацькоў і сяброў на святочнае падвядзенне вынікаў творчай дзейнасці.




Кажа інструктар групы "Баламуткі" Марыя Грыц:

– Я вельмі ўсцешаная ўвогуле, што для мяне была зроблена такая ласка, мяне запрасілі ладзіць гэтыя заняткі. Спачатку было зусім мала дзетак. Падаецца, тры-чатыры чалавекі да мяне хадзілі. А потым наша група разраслася. І гэта быў вельмі чароўны год. Збіралі беларускі фальклор. Вучылі песні, вучылі гульні.

Спектакль "З жыцця мумітроляў" прадставіў гуртoк "Гульня ў тэатр", якім кіруе настаўніца беларускай мовы Ганна Плашчынская:

– Увесь гонар – сцэнар, пастаноўка – усё гэта належыць спадару Бэрнарду Баню. Гэта вядомы артыст беластоцкага тэатра Вянгеркі. Займаўся з Алінай Ваўранюк, разам яны стваралі гэты тэатр. І цяпер я разам з Бэрнардам. Я перакладала. Дзеці проста малайцы. Таму што напраўду гэта была вельмі складаная пастаноўка, але яны далі рады.

Яшчэ адным яскравым момантам сталі выступы рознаўзроставых груп з калектыву "Падляшскі вянок" пад кіраўніцтвам Аксаны Прус, а таксама вакальнай студыі, якой кіруе Аксана Галамбоўская. Мерапрыемства стала не толькі падсумаваннем года, але і сапраўдным святам беларускай культуры ў Беластоку.

racyja.com

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАЎЦЫ НАДЗЯ КАНДРУСЕВІЧ І ДЗМІТРЫЙ СТРОЦАЎ СТАЛІ ЛАЎРЭАТАМІ МІЖНАРОДНАЙ ПРЭМІІ IPA PRIX VOLTAIRE 2025

Міжнародная асацыяцыя выдаўцоў (IPA) абвясціла Надзю Кандрусевіч (выдавецтва Koska) і Дзмітрыя Строцава (выдавецкая ініцыятыва Hochroth Minsk) лаўрэатамі прэміі Prix Voltaire 2025. Уганараванне адбылося на цырымоніі ў рамках Сусветнага форуму свабоды выказвання (WEXFO) у нарвежскім Лілехамеры.

Прэмія прызнала мужнасць беларускіх выдаўцоў, якія працуюць у вымушанай эміграцыі, іх адданасць справе свабоднага слова і выдавецкай дзейнасці, нягледзячы на пераслед, пагрозы і цэнзуру ў Беларусі.

Беларускі паэт, выдавец і актывіст Дзмітрый Строцаў пасля таго, як яго выдавецтва "Вінаград" пазбавілася ліцэнзіі, працягнуў працаваць падпольным выдаўцом, супраціўляючыся дзяржаўнай цэнзуры. Арыштаваны ў кастрычніку 2020 года, ён пазней сутыкнуўся з пагрозамі і абмежаваннямі ў працы. Вымушаны эміграваць, ён пераехаў у Берлін і заснаваў выдавецтва Hochroth Minsk як пляцоўку для свабоднага выдання беларускіх аўтараў.

У 2018 годзе Надзея Кандрусевіч заснавала ў Беларусі выдавецтва дзіцячых кніг "Коска", каб выпускаць літаратуру на беларускай мове. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года ў "Коскі" былі канфіскаваныя выданні, а офісы зачыненыя. З 2022 года Кандрусевіч працягвае сваю працу ў Польшчы.

"Свабода выдаваць пад пагрозай паўсюль. Але тое, што нашы лаўрэаты працягваюць сваю працу ў выгнанні – вартае глыбокай павагі і прызнання", – адзначыў старшыня камітэта IPA па свабодзе публікацый Крыстэн Эйнарсан.

Надзя Кандрусевіч не змагла прысутнічаць на цырымоніі, але падзялілася наступнай заявай: "Дзякуй за вялікі гонар атрымаць прэмію Вальтэра. Гэта прызнанне пацвярджае не толькі важнасць выдання і перакладу кніг для дзяцей, але і веру ў ціхую сілу слоў фарміраваць розум, адкрываць сэрцы і будаваць масты паміж мовамі, культурамі і пакаленнямі". Яна прысвяціла ўзнагароду ўсім перакладчыкам, аўтарам і выдаўцам, што працуюць нягледзячы на абставіны.

Дзмітрый Строцаў, прымаючы ўзнагароду, выступіў па-беларуску. Ён нагадаў, як у 2022 годзе пакінуў Беларусь з адной валізай, але з мэтай стварыць "свабоднае беларускае выдавецтва ў эміграцыі". Сёння, паводле яго, каля 30 беларускіх выдавецкіх ініцыятыў адрадзіліся за мяжой, сфармаваўшы новую супольнасць.




"Гэтая ўзнагарода – важная падтрымка для беларускага дэмакратычнага супраціву і адкрытае запрашэнне далучыцца да сусветнай выдавецкай сям'і", – сказаў паэт і выдавец.

### Аб прэміі Prix Voltaire

Прэмія IPA Prix Voltaire уручаецца выдаўцам або выдавецкім арганізацыям, якія дзейнічаюць у складаных умовах, супрацьстаяць цэнзуры, ціску з боку дзяржаў або прыватных структур. Узнагарода ўключае грашовы прыз у 10 000 швейцарскіх франкаў.

У 2025 годзе спіс фіналістаў быў апублікаваны на Фестывалі кнігі ў Парыжы. Акрамя Кандрусевіч і Строцава, у шорт-ліст увайшлі выдаўцы з Лівана, Алжыра, ЗША і Расіі.

### Беларусь і Prix Voltaire

Кандрусевіч і Строцаў сталі другім і трэцім прадстаўнікамі Беларусі, што атрымалі Prix Voltaire. Першы беларускі лаўрэат – Ігар Логвінаў – атрымаў прэмію ў 2014 годзе. У 2021 годзе ў шорт-ліст увайшлі ананімізаваныя незалежныя беларускія выдаўцы, а ў 2024-м – Андрэй Янушкевіч, які таксама быў уганараваны прэміяй AAP (ЗША).

reform.news

# ФІЛЬМ МАРЫІ БУЛАВІНСКАЙ ПРА СТАЛІНСКІЯ РЭПРЭСІІ АТРЫМЛІВАЕ МІЖНАРОДНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

Дакументальна-ігравы фільм "Лес" рэжысёркі Марыі Булавінскай атрымаў прэмію на міжнародным фестывалі International Golden Saffron Documentary Film Festival у Турцыі 10 траўня.



Раней стужка была прызнана найлепшым гістарычным фільмам на Berlin Indie Film Festival.

Таксама фільм удзельнічае ў конкурсных праграмах фестываляў у Італіі, Вялікабрытаніі і іншых краінах. Паводле слоў аўтаркі, вынікі па гэтых фестывалях яшчэ не абвешчаны.

"Лес" распавядае гісторыю сталінскіх рэпрэсій у Гомельскім рэгіёне. Сцэнарый заснаваны на рэальных падзеях – гісторыі чалавека, якога расстраляла НКВД, але які цудам выжыў. Галоўную ролю выканаў актор Нацыянальнага тэатра Янкі Купалы Алег Гарбуз.

29 студзеня суд Цэнтральнага раёна Гомеля прызнаў фільм "экстрэмісцкім матэрыялам". Улады заяўляюць, што стужка нібыта адмаўляе "генацыд беларускага народа" і супярэчыць афіцыйнай версіі, згодна з якой у Шчакатоўскім лесе масавыя расстрэлы праводзілі нацысты, а не НКВД.

baj.media паводле "Священный Белавуд"



Міра Лукша – чацвёртая злева

© Waldemar Kardasz

# МІРА ЛУКША АТРЫМАЛА АДЗНАЧЭННЕ "ЗАСЛУЖАНАЯ ДЛЯ БЕЛАСТОКА"

Медалі Urbi Meritus уручаны. 11 чалавек і адна арганізацыя атрымалі Ганаровыя адзначэнні прэзідэнта горада Беласток "Urbi Meritus – Заслужаны для горада". Прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі падчас суботняй урачыстасці, арганізаванай у межах Дзён горада, уручыў медалі тым асобам, якія асаблівым чынам спрычыніліся да развіцця і прамоцыі Беластока. Урачыстасць завяршылася канцэртам "Queen Symphony – Tribute To Freddie Mercury".

Сярод адзначаных – творцы, самаўрадаўцы, спартоўцы, навукоўцы, грамадскія дзеячы. Сярод іх Міра Лукша, якую адзначалі медалём Urbi Meritus за ўсю творчую працу, за пісанне на беларускай і польскай мовах, за творчую прамоцыю пагранічча культур і народаў, на якім мы жывём.

Міра Лукша – паэтка, празаік, журналістка, перакладчыца. Усё прафесійнае жыццё звязаная з тыднёвікам беларусаў у Польшчы "Ніва". Летась адзначыла 50-годдзе сваёй творчай дзейнасці. Лаэўратка літаратурнай узнагароды прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага.

racyja.com

**навіны**

# БЕЛАРУСЫ Ў ВІЛЬНІ ПРАВЯЛІ РОВАРНЫ ПРАБЕГ У ПАДТРЫМКУ ЗНЯВОЛЕНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ

14 чэрвеня ў сталіцы Літвы адбыўся роварны прабег "Едзем за сваіх" – акцыя салідарнасці з беларускімі журналістамі, якія знаходзяцца ў вязніцах. Прабег арганізавала Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ), якая сёлета адзначае 30 гадоў ад заснавання.

"Больш за 40 беларускіх журналістаў па-ранейшаму за кратамі за сваю прафесійную дзейнасць і актыўную жыццёвую пазіцыю. Гэты роварны прабег – напамін пра іх лёсы і сігнал, што мы будзем і далей змагацца за іх вызваленне", – сказаў напачатку акцыі адзін з яе арганізатараў, праваабаронца "Вясны" Леанід Судаленка.

За 20 гадоў, цягам якіх Судаленка ездзіць на спартовым ровары, значны перапынак у гэтым занятку ў яго быў толькі аднойчы – калі 2,5 гады сядзеў за кратамі за праваабарончую дзейнасць.

"Марыў, як выйду, сяду на свой ровар і зноў буду ганяць на дарогах Гомельшчыны, але пакуль не атрымліваецца. Толькі пакуль", – кажа Леанід.

Фінская журналістка Інгрыд Сванфэльд адмыслова прыехала з Хэльсінкі ў Вільню, каб удзельнічаць у акцыі салідарнасці з беларускімі калегамі, якія сядзяць у турмах. Двух беларускіх палітвязняў-журналістаў Інгрыд ведае асабіста. З Ларысай Шчыраковай яна пазнаёмілася на семінары ў Нарвэгіі, у Яўгена Меркіса брала інтэрв'ю праз тэлефон.

"Мяркую, Ларыса ведае, што сёння я тут на роварным прабегу. Мы дамаўляліся, што кожны аўторак я буду з ёю размаўляць анлайн, і мне вельмі баліць, што яе няма тут з намі. Але гэта не назаўсёды, веру, што яны ўсе будуць на волі", – упэўненая Інгрыд Сванфэльд.




IT-спецыялістка Марыя прыйшла на роварны прабег, абуўшы прыгожыя басаножкі. "Нічога, я ў Менску гэтак на працу ездзіла!" – не зважае беларуска на складанасці язды па брукаванках літоўскай сталіцы. Дзяўчына спадзяецца, што ўрэшце вернецца ў родны Менск, і не баіцца ўдзельнічаць у акцыі салідарнасці.

Больш асцярожны будаўнік Зміцер, які не стаў называць сваё прозвішча і горад, адкуль з'ехаў. У Беларусі ў Змітра сям'я, з дзецьмі ён вымушаны кантактаваць праз відэасувязь.

"Што да салідарнасці – гэта святое, трэба сваіх падтрымліваць", – упэўнены раварыст Зміцер.

З ім салідарны былі працаўнік радыё Максім, які дзеля бяспекі схаваў твар пад маскай. У Максіма яшчэ адна прычына ўдзельнічаць у роварным прабегу – пару месяцаў таму ў доме, дзе ён жыве, скралі ягоны ровар.

"Паліцыя разводзіць рукамі: злодзея знайсці не могуць, бо, як назло, відэакамеры ў месцы злачынства не працавалі", – пасміхаецца суразмоўца.

Максім збірае грошы на новы ровар, а пакуль, дзеля салідарнасці і каб не страціць спартовую форму, прыехаў на акцыю.

Па вуліцах Вільні ўдзельнікі прабегу накруцілі не менш за 10 кіламетраў, частку з іх у парку Закрэт (Vingis), дзе ў суботні дзень шмат наведнікаў.

"Некаторых зацікавілі нашы чырвоныя майкі з партрэтамі палітвязняў. Расказвалі, што адбываецца ў Беларусі з свабодай слова, дык тыя літоўцы, якія пра гэта нічога не ведалі, былі ў шоку. Цяпер ведаюць", – расказала ўдзельніца прабегу Наталля.

Перад стартам удзельнікаў вітала беларуская дэмакратычная лідарка Святлана Ціханоўская, а яе дарадца Дзяніс Кучынскі атрымаў у часовае карыстанне ровар і далучыўся да прабегу.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА БАЛГАРЫІ ПРАПАНАВАЛА НАЗВАЦЬ ІМЕМ АЛЕСЯ ПУШКІНА АЛЕЮ

Алея месціцца ў парку імя Геа Мілева ў Сафіі, побач – амбасада Беларусі ў Балгарыі.

Беларусы Балгарыі склалі петыцыю на адрас кіраўніка сталічнага раёна Слаціна.

"Мы лічым важным сімвалічна захаваць памяць пра такога годнага чалавека на нашай новай радзіме, якою, спадзяемся, стане для нас дэмакратычная і свабодная Балгарыя", – адзначылі аўтары петыцыі.

Мастак Алесь Пушкін трапіў у няволю па палітычна матываванай справе, праваабаронцы прызналі яго палітвязнем. 11 ліпеня 2023 году ён памёр у лякарні, куды яго прывезлі з гарадзенскай турмы № 1. У мастака была прабадная язва страўніка, развіўся перытаніт, поліарганная нядзатнасць. Пушкіну было 57 гадоў.

Алесь Пушкін браў актыўны ўдзел у руху нацыянальнага адраджэння, рэстаўраваў гістарычныя будынкі, распісваў цэрквы і касцёлы, яго шмат разоў затрымлівалі з палітычных матываў.

**svaboda.org**



**in memoriam**

# ПАМЁР БЫЛЫ ПАЛІТВЯЗЕНЬ АЛЯКСАНДАР КЛАСКОЎСКІ (МАЛОДШЫ)

Яму было 46 гадоў, ён памёр за межамі Беларусі.

"Вось і ўсё. Няма ў мяне больш брата. Саша адышоў у лепшы свет ва ўзросце 46 гадоў", – напісала ў фэйсбуку былая палітзняволеная Вольга Класкоўская.

Вольга дадала, што, хутчэй за ўсё, прычынай стаў сардэчны прыступ, цела каля дому знайшлі суседзі, цяпер праводзяць экспертызу.

"Усіх падрабязнасцяў не ведаем. Хацелася б дужа пахаваць яго ў Беларусі, але не ведаю, ці гэта рэалістычна", – напісала Вольга Класкоўская.

Аляксандр Класкоўскі (малодшы) нарадзіўся 26 верасня 1978 года ў сям'і вядомых беларускіх журналістаў Аляксандра і Людмілы Класкоўскіх.

У 1999 годзе паступіў на службу ў ДАІ Ленінскага раёну Менску, быў інспектарам ДПС. У 2005 годзе вымушана пакінуў МУС у званні



Аляксандар Класкоўскі (малодшы) на пляцы Незалежнасці ў Мінску падчас пратэстаў 19 снежня 2010 года. На фота ён злева

лейтэнанта міліцыі.

Апрануўшыся ў міліцэйскую форму, браў удзел у акцыі пратэсту ў Менску супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў 19 снежня 2010 года. Затрымалі яго ў ноч на 21 снежня, абвінавацілі ў арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх.

26 траўня 2011 года суддзя Ленінскага раёну Менску Людміла Грачова асудзіла яго на 5 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Адбываў пакаранне ў шклоўскай калоніі № 17. Вызвалены праз памілаванне.

svaboda.org

# СКОНЧЫЎ ЖЫЦЦЁ САМАГУБСТВАМ 34-ГАДОВЫ СТВАРАЛЬНІК МУЗЫКІ І ВІДЭА МАКСІМ БЕЛЬСКІ

У 2020 годзе хлопец падтрымаў пратэсты, пасля чаго быў вымушаны з'ехаць у эміграцыю.

Максім Бельскі, вядомы як Makslonglive (даслоўны пераклад – Жыве Макс), пайшоў з жыцця 2 чэрвеня 2025 года. Пра гэта паведамілі яго сябры ў сацсетках. Хлопцу было 34 гады.

Максім Бельскі быў вядомы як стваральнік музыкі і відэа. Працаваў з расійскім комікам Данілам Папярэчным.

Максім далучыўся да падзей жніўня 2020 года ў Мінску. Яго здымкі з пратэстаў збіралі дзясяткі тысяч лайкаў. Ён быў аўтарам дакументальнага фільма "Жыве Беларусь" на 80 тысяч праглядаў, у якім зняўся сам.



Пасля хлопец з'ехаў з Беларусі. Жыў у Пецярбургу, у Тбілісі, у Вільні. Спрабаваў адкрыць бар у Грузіі, здымаў кліпы, але так і не даў рады эміграцыі. Яшчэ паўтара года назад Максім запісваў відэа "Як перажыць цяжкасці – эміграцыя, адзінота, стрэс, адсутнасць грошай і іншая лухта".

Паводле слоў сяброў, прычынай сыходу сталі праблемы са здароўем і побытавая неўладкаванасць.

nashaniva.com

# СТАЛА ВЯДОМА ПРА ГІБЕЛЬ У ВАРШАВЕ АКТЫВІСТА ЗМІТРА КАСПЯРОВІЧА

Смерць у Варшаве вечарам 20 чэрвеня грамадскага актывіста Змітра Каспяровіча пацвердзіў кіраўнік BySOL Андрэй Стрыжак.

Паводле яго, "Зміцер знік з радараў і не адказваў на званкі. Знайшлі ў калюжыне ўласнай крыві. Нібыта, няўдала ўпаў".

Каспяровіч быў актывістам апазіцыі з юнацтва, быў у "Маладым фронце", узначальваў гарадскую арганізацыю ліквідаванай цяпер уладай Партыі БНФ. Быў абаронцам Курапатаў цягам кругласутачнай вахты памяці 2001-2002 гадоў. У 2006 годзе быў у зняволенні паўгода за спробу вывесіць бел-чырвона-белы сцяг над Менгарвыканкамам. Пазней займаўся бізнэсам. Эміграваў з Беларусі, але ў 2022 годзе прыехаў у Менск і быў затрыманы. Пазней ён змог выехаць з Беларусі, аднак, як прызнаўся некалькі гадоў таму, быў вымушаны пайсці на супрацоўніцтва з беларускімі спецслужбамі.

Змітру Каспяровічу было 45 гадоў. Ён мянчук. Быў прызнаны палітвязнем. Вазіў экскурсіі па Беларусі. Зміцер – заўзяты падарожнік, ён наведаў больш за 70 краінаў свету.

svaboda.org



## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2025 года

1 ліпеня
• 85 гадоў таму, у 1640-м, загінуў Уладзімір Хадыка, паэт.

3 ліпеня
• 85 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Роберт Тамушанскі, філолаг, рэлігійны дзеяч у Вялікабрытаніі і Ватыкане. Памёр у 1996-м.

5 ліпеня
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Барыс Сачанка, пісьменнік.

6 ліпеня
• 40 гадоў таму, у 1985-м, памёр Пятро Сакол (сапр. Пётр Масальскі), паэт.

10 ліпеня
• 195 гадоў таму, у 1830-м, памёр Людвік Сабалеўскі, філолаг.

13 ліпеня
• 110 гадоў таму, у 1915-м, загінуў Лявон Гмырак (сапр. Мечыслаў Бабровіч), празаік.
• 35 гадоў таму, у 1990-м, памёр Янка Багдановіч, пісьменнік.

14 ліпеня
• 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Пятро Сакол, паэт. Памёр у 1985-м.

15 ліпеня
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Уладзімір Дубоўка, пісьменнік. Памёр у 1976-м.

16 ліпеня
• 20 гадоў таму, у 2005-м, памерла Яніна Каханоўская, дзяячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

19 ліпеня
• 170 гадоў таму, у 1855-м, памёр Тамаш Зан, прыродазнавец, літаратар.

23 ліпеня
• 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Міхаіл Сазыка, вайсковы дзеяч, спявак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Загінуў у 1949-м.
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Алесь Ставер, пісьменнік.

25 ліпеня
• 80 гадоў таму, у 1945-м, расстраляны Станіслаў Грынкевіч, літаратар, адзін з лідэраў БХД.

27 ліпеня
• 115 гадоў таму, у 1910-м, памёр Уладзіслаў Дыбоўскі, заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог, фалькларыст.
• 35 гадоў таму, у 1990-м, Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

28 ліпеня
• 105 гадоў таму, у 1920-м, памёр Алесь Гарун (сапр. Аляксандр Прушынскі), паэт.

29 ліпеня
• 65 гадоў таму, у 1960-м, памёр Тодар (Хведар) Данілюк, рэлігійны і вайсковы дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (277), чэрвень 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com